# Дняпроўская СТРОМА

№ 11 лістапад 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


## "Ваяцкія песні" – для вайскоўцаў

4 лістапада 2012 г. у магілёўскай гарадской бібліятэцы імя К.Маркса адбылася літаратурна-музычная вечарына *"Славутыя сыны зямлі беларускай"*, прысвечаная 130-годдзю Якуба Коласа і Янкі Купалы. На вечарыну былі запрошаны вайскоўцы магілёўскай вайсковай часткі 5523 Унутраных войскаў Міністэрства унутраных спраў. Яны з вялікай цікавасцю праслухалі аповед бібліятэкараў Ірыны Ціняковай і Святланы Міхальчук пра жыццё беларускіх песняроў, убачылі дакументальны фільм, паслухалі вершы паэтаў у выкананні артыстаў народнага тэатра Палаца культуры вобласці Аліны Кісялёвай, Вольгі Другаковай і Васіля Данілава. Старшыня магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў расказаў пра асабістыя стасункі Якуба Коласа і Янкі Купалы, пра іх ролю ў станаўленні самасвядомасці беларускага народа ў перыяд рэвалюцыйных зменаў пачатку XX стагоддзя. Завяршылі вечарыну песні – Мікола і Ала Яцковы выканалі цыкл "Ваяцкіх песен" Янкі Купалы, і гэта вельмі спадабалася вайскоўцам, якія дружна падпявалі, а потым выказалі жаданне самім вывучыць некаторыя з песен у якасці паходна-страявых.



Вайскоўцы слухаюць Купалу...



Святлана Міхальчук і Ірына Цінякова



Аліна Кісялёва



Вольга Другакова



Васіль Данілаў



Ала і Мікола Яцковы

*Св. інф.*

Фотаздымкі А.Кусковай і М.Яцкова

## Толькі адна ноч



*У сяго за адну ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў сутарэннях мінскай унутранай турмы НКУС - "амерыканкі", расстралялі каля 100 беларускіх інтэлектуалаў — выбітных літаратараў, навукоўцаў і дзяржаўных дзеячаў.*

(Заканчэнне на с.2)

Уладзімір ЛІЎШЫЦ

## Горацкія сябры Якуба Коласа

**3 лістапада 2012 года споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння волата беларускай літаратуры Якуба Коласа. Адну з старонак шматграннага жыцця беларускага песняра раскрывае гістарычнае даследванне, якое прапануецца вашай ўвазе.**



Якуб Колас
Літаграфія В.Мікіты.

### *"Дарагому другу Максіму..."*

Класік беларускай літаратуры Максім Іванавіч Гарэцкі, выхаванец Горацкага земляробча-каморніцкага вучылішча, а потым выкладчык Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, ведаў Якуба Коласа як аўтара надрукаваных вершаў у газеце «Наша ніва».

Яго брат, акадэмік АН Беларусі Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, таксама выхаванец Горацкага вучылішча, ўспамінаў, што ў земляробча-каморніцкім вучылішчы пад кіраўніцтвам Максіма было створана *«...невялікае таварыства аматараў беларускай літаратуры. Выпісвалі «Нашу ніву», чыталі «Тараса на Парнасе», вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа...».*



Максім Гарэцкі

У ліпені 1913 г. М. Гарэцкі скончыў вучылішча і працаваў каморнікам у Вільні. Вядома, што ён часта заходзіў у рэдакцыю газеты «Наша ніва», дзе і мог сустрэць Якуба Коласа. На жаль, аб гэтым няма дакладных сведчанняў.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, абодвух прызываюць на вайсковую службу. Вядома, што 18 верасня 1914 года ў газеце «Наша ніва» ў артыкуле «Нашы пісьменнікі і грамадскія працаўнікі на вайне» былі змешчаны фатаграфіі Я. Коласа і М. Гарэцкага. У артыкуле пісалася: *«Пайшоў на вайну шчыры народны паэт Якуб Колас, малады здольны пісьменнік Максім Гарэцкі...».* (Працяг на с.3)

## Завіталі ў Бабруйск

5 лістапада ў Бабруйску прайшло мерапрыемства прымеркаванае да акцыі Міжнароднай і Еўрапейскай федэрацыі журналістаў "Станем за журналістыку!", на якім прысутнічала каля трыццаці бабруйчан.



Глеб Лабадзенка і Анатоль Санаценка



Распачаў мерапрыемства галоўны рэдактар газеты "Бабруйскі Кур'ер", паэт, сябра грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Анатоль Санаценка, які паведаў пра гісторыю самай старой газеты горада (заснавана ў 1914 г.), а таксама пра ціск на газету з боку ўладаў, з-за чаго папяровы варыянт газеты спыніў сваё існаванне.

Аб прафесіі журналіста, пра выпадкі часам няпростых стасункаў з чыноўнікамі распавялі госці з Мінска – журналіст, паэт, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Глеб Лабадзенка і журналіст, музыка, вакаліст вядомага гурта «Handmade» Яўген Валошын. У творчай частцы вечара Г.Лабадзенка прачытаў некалькі сваіх вершаў і прэзентаваў уласны зборнік паштовак з выявамі самых старых будынкаў Беларусі, а Я.Валошын выканаў свае песні, якія стварылі асаблівую атмасферу.



Яўген Валошын

*Паводле www.babruysk.by/news*

# Толькі адна ноч

Гісторыя сусветнай літаратуры не ведае падобных карных акцый, з якіх пачалося масавае знішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі.

У ноч на 29 кастрычніка 1937 года па абвінавачванні ў нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыйнай дзейнасці былі расстраляныя: крытыкі і публіцысты Макар Шалаеў, Якаў Бранштэйн, Віктар Вайноў, Хацкель Дунец, Язэп Каранеўскі, Саламон Левін, Пятро Хатулёў, Павел Шастакоў і Аляксей Кучынскі; паэты Міхась Чарот, Анатоль Вольны, Зяма Півавараў, Алесь Дудар, Майсей Кульбакі, Юрка Лявонны, Валерый Маракоў, Ізі Харык і Арон Юдельсон; празаікі Васіль Сташэўскі, Васіль Каваль, Платон Галавач і Міхась Зарэцкі. У наступную ноч крывавы спіс дапоўнілі журналіст Прохар Спраўнік, празаік Янка Нёманскі, паэты Юлі Таўбін і Тодар Кляшторны.

Колькі дакладна было расстраляна ў тую ноч, сказаць пакуль немагчыма. Да гэтага часу невядомая дата смерці вельмі многіх пісьменнікаў. Скажам, невядома, калі і дзе быў расстраляны Макар Краўцоў – аўтар знакамітай песні *«Мы выйдзем шчыльнымі радамі»*, удзельнік І Усебеларускага кангрэса ў 1917 г. Невядомая дата смерці драматурга і паэта Леапольда Родзевіча.

За ўсю гісторыю чалавецтва такога масавага расстрэлу не было ні ў адной літаратуры свету. Калі ў 1921 годзе бальшавікі за «недоносительство» расстралялі Мікалая Гумілёва – гэта была падзея, якая ўспрымалася як памылка, як страшнае непаразуменне. Калі ў 1936 годзе іспанскія фалангісты расстралялі Федэрыка Гарсія Лорку, Еўропа была ў шоку. А тут працаваў сістэматычны канвеер смерці. Расстрэльвалі пагалоўна эліту беларускай нацыі. Пісьменнікаў знішчалі менавіта за тое, што яны былі беларускімі пісьменнікамі. *«Нацдем»*, *«буржуазны нацыяналіст»* – так гучалі абвінавачванні.

Наогул, прамежак са жніўня 1937 па снежань 1938 г. стаў для Беларусі крывавым тунэлем смерці. За няпоўныя 15 месяцаў расстралялі больш за 10 тысяч чалавек. Арыштоўвалі кожнага думаючага чалавека. У 1937-м толькі за тры восеньскіх месяцы органы рэпрэсавалі больш за 600 грамадскіх і культурных дзеячаў. Усяго ж супрацоўнікі НКУС расстралялі ці выслалі ў канцлагеры 90% беларускіх літаратараў (ва Украіне – 35-40%, у Расіі не больш за 15%), 100% святароў, без малога усіх дырэктараў заводаў, кожнага трэцяга настаўніка, інжынера... Рэпрэсіі, якія прыйшлі на змену "беларусізацыі", пад корань выразалі сотні самародкаў. Інтэлектуальны генафонд нацыі, напрацаваны за стагоддзі, у гады сталінізму быў практычна знішчаны. Наша паўсюдная няўпэўненасць, страх, абыякавасць — следства гэтага генацыду.

► Паэта Алеся Дудара арыштоўвалі 3 разы за 7 гадоў. Вось такім яго зрабіла турма. Ён загінуў у 32 гады.◄



Даследнікі налічылі 4 хвалі тэрору, што лішні раз падкрэслівае сістэмную палітыку савецкай улады па знішчэнні беларускай эліты. У 20-я гады, калі праводзілася палітыка беларусізацыі, усё паднялі галовы, праявілі сябе. І першая хваля – 1929 - 1931 – гады выкасілі менавіта іх. У 1930-м арыштавалі выдатнага паэта Уладзіміра Жылку. Яго не расстралялі, а, хворага на сухоты,выслалі ў Вятку на верную смерць, дзе ён і памёр у 1933-м. Паэта і перакладчыка Байрана і Шэкспіра (з арыгінала) Уладзіміра Дубоўку арыштавалі ў тым жа 1930-м. Прычым, у Крамлі, дзе ён працаваў – быў перакладчыкам савецкіх законаў на беларускую мову. А Дубоўка быў арганізатарам літаб'яднання «Узвышша», дзе сабраўся колер нацыянальнай літаратуры. Янка Купала лічыў яго першым паэтам сярод плеяды маладых, якія праявілі сябе ў тыя гады.

Другая хваля была адразу ж за першай – 1932 - 1934 гады. Падабралі ўсіх, хто занадта актыўна праводзіў беларусізацыю: адкрываў навучальныя ўстановы, засноўваў часопісы, перакладаў на беларускую замежную класіку. Трэцяя хваля – пік рэпрэсій – 1937 - 1939 гады, калі расстрэльвалі сталі сотнямі. Гэта быў самы сапраўдны дзяржаўны тэрор. Ён працягнуўся і ў 1939 - 1941 гадах, калі далучылі Заходнюю Беларусь. Амаль усіх «далучыўшыхся» пісьменнікаў адразу сталі лічыць «польскімі шпіёнамі». Напрыклад, Наталлю Арсенневу выслалі ў Казахстан. Многія з пісьменнікаў, якія яшчэ да далучэння перайшлі праз мяжу ў Савецкі Саюз, спахапіліся, ды было позна. Быў такі добры паэт Алесь Салагуб, які перадаў з менскай турмы запіску: *«Не ўцякайце ў Савецкі Саюз, нас тут саджаюць у нашыя савецкія турмы»*. А ўжо пасля верасня 1939 г. выявіліся новыя «ворагі народа». У іх ліку, да прыкладу, Антон Луцкевіч, чалавек незвычайнага таленту, арганізатар «Нашай нівы», прэм'ер Урада БНР.

► Першага пралетарскага паэта Беларусі Цішку Гартнага ў засценках НКУС давялі да вар'яцтва *(турэмнае фота справа)*. Па ўспамінах Масея Сяднёва, Цішка Гартны гаварыў, што ідзе знішчэнне ўсяго беларускага, знішчэнне духоўнага жыцця народа, больш таго — ідзе яго фізічнае знішчэнне. Робіцца ўсё, каб не даць нам жыць, як народу... А потым Гартны канчаткова звар'яцеў – вяртаючыся з допытаў, ён хаваўся пад лаўку і ціха, спалохана шаптаў: *"Божа мой!.. Я хацеў забіць Сталіна?"* Неўзабаве з мінскай «амерыканкі» яго вывезлі ў магілёўскую псіхіятрычную бальніцу, дзе ён прабыў ўсяго чатыры дні, і, як сведчаць матэрыялы справы, *«...лёг на пол, поднял железную кровать и ножку кровати поставил себе в рот, и таким образом совершил самоубийство»*. Але тыя, хто ведалі Жылуновіча, сцвярджаюць, што ён не здольны быў на фізічнае самагубства, і ўсё было зроблена супрацоўнікамі НКУС, бо гэта быў знакавы чалавек у беларускай гісторыі, і пакідаць яго жывым і пры розуме – гэта было не ў стылі НКУС. ◄



Апошняя хваля была ўжо пасля заканчэння вайны – 1944 - 1946 гады. Тады пачаўся адлоў так званых калабарацыяністаў. Падчас вайны ў Беларусі немцы праводзілі своеасаблівую культурную палітыку: стварaліся беларуская выдавецтвы, тэатр працаваў, падручнікі Браніслава Тарашкевіча і Язэпа Лёсіка для беларускіх школ выходзілі 100-тысячнымі накладамі. І Тарашкевіча, і Лёсіка расстралялі. Мала хто не патрапіў пад махавік рэпрэсій. Дарэчы, беларускае слова *«хапун»* увайшло і ў рускія слоўнікі. І гэта шмат аб чым кажа.

► Класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі не дажыў 10 дзён да свайго 45-годдзя *(турэмнае фота справа)*. ◄



Планавалася знішчыць і Янку Купалу з Якубам Коласам. На чале прыдуманага ў нетрах ГПУ «Саюза вызвалення Беларусі» хацелі паставіць менавіта Купалу. І яго цягалі па начах на допыты. Ён быў даведзены да такога стану, што спрабаваў паканчыць з сабой. Яго перадсмяротны ліст немагчыма спакойна чытаць: *«Застрэліўся Маякоўскі, павесіўся Ясенін, відаць, і мне за імі дарога»*. Але ў гады беларусізацыі Купала быў пастаўлены на вельмі высокі п'едэстал. У кожнай дзяржаўнай установе, будзь то сельсавет, школа ці хата-чытальня, вісеў партрэт Купалы. Як яго ўзяць і расстраляць? Народ, у свядомасці якога Купала трывала заняў месца першага народнага паэта, не зразумеў бы гэтага. І ўлады вырашылі паэта да пары да часу не чапаць і замест бізуна ўжылі пернік – падарылі яму гэты аўтамабіль з шафёрам-супрацоўнікам ГПУ, дачу на беразе Дняпра ...

Трэба адзначыць, што менавіта ўсе пісьменнікі, якія трапілі ў гэту мясарубку, былі ў росквіце сваіх талентаў. Напэўна, многія з іх не паспелі напісаць свае галоўныя творы.. Выдатны лірык Уладзімір Хадыка загінуў у 35 гадоў, невядома нават, дзе яго магіла. Дзесьці пад Уладзівастокам. Там яго бачыў у апош-ні раз Масей Сяднёў і які успамінаў, што Хадыка ў лагеры зашываў вершы ў каўнер сваёй курткі... Паўлюк Шукайла, беларускі футурыст, быў расстраляны ў 35 гадоў, Сяргей Дарожны таксама ў 35 гадоў. Валерый Маракоў – у 28.

Знішчалі не толькі саміх літаратараў, але і кнігі, рукапісы. Улетку 1937 года Галоўліт БССР выдаў сакрэтны спіс літаратуры для неадкладнага знішчэння. У ім 421 пазіцыя, але кніг – значна больш. Справа ў тым, што там насупраць некаторых пісьменнікаў прозвішчаў напісана: выключыць усе кнігі. Ёсць у тым спісе і імёны Купалы, Коласа, Багдановіча, нават паэма «Тарас на Парнасе» была прызнаная шкоднай. Кнігі прадпісвалася здрабніць у макулатуру, але такіх спецыяльных апаратаў не было. І кнігі проста спальвалі.

Засталіся творы расстраляных паэтаў не толькі на паперы. Мікола Хведаровіч, якому пашчасціла вярнуцца з ГУЛАГа, у турме "амэрыканцы" убачыў выдрапаныя на сцяне радкі Міхася Чарота:

*Прадажных здрайцаў ліхвяры*
*Мяне зацiснулі за краты.*
*Я прысягаю вам, сябры,*
*Мае палі, мае бары,*
*Паверце, я не вінаваты!*

"Двойкі" і "тройкі" НКУС судзілі ні ў чым невінаватых людзей за 10-12 хвілін. Прычым 90% следчых і суддзяў былі дасланыя разбірацца з беларускімі "нацдэмамі" з іншых рэспублік СССР. Многія прыязджалі на пару дзён, зачытвалі некалькі сотняў смяротных прысудаў і знікалі на бязмежных прасторах краіны Саветаў.



Сумнавядомая турма "амерыканка". Сучасны выгляд.

Перад судом няшчасных па-зверску катавалі. Так, з аўтара "Беларускай граматыкі для школ" Б.Тарашкевіча выбілі "паказанні" на 249 чалавек!

Гісторык Леанід Маракоў знайшоў у архівах такія вось сведчанні:

► *"...Стенографистка Жуковская показала, что многие следователи, являясь инструкторами по бою, ходили по кабинетам и избивали несознавшихся арестованных. Когда арестованные теряли сознание после избиения, Быковский колол их иголкой в шею. Антону Балицкому, (нарком просвещения БССР) дал прессом в лицо. Арестованного литератора З. ставил ногами вверх к окну и избивал...".*

► *"...Неоднократно с 4 до 6 утра меня избивала "бригада". Собирались следователи Морев, Виньковецкий, Годин, Крупеньков... "Бригада" была, одновременно применяя различные приёмы: один рвал волосы, другой давил на горло, третий оплевывал лицо, остальные били кулаками и сапогами по голове, груди, животу, ногам. Это бригада играла в "футбол", помещая меня в центре, били по очереди сапогами — кто куда попадет..."*

Класік нашай літаратуры Кузьма Чорны, які амаль восем месяцаў правёў за кратамі, успамінаў:

► *"... У яжоўскай турме ў Менску ўвосень 1938 года мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі зьбітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла, уганялі ў камеру з пацукамі"...*

Паводле дадзеных розных даследчыкаў, сталінскія апрычнікі рэпрэсавалі ў Беларусі ад 600 тысяч да 1,5 мільёна чалавек. Кожны дзясяты беларус. Кожная трэцяя сям'я!

Безумоўна, тыя сумныя падзеі адбіліся ў падсвядомасці беларусаў. Калі б не было таго сістэматычнага і спланаванага ў Маскве тэрору, тых жудасных расстрэлаў, тысяч вядомых і невядомых магіл, у нас была б зусім іншая краіна. У 30-я гады былі знішчаныя амаль усе пасіянарныя асобы, якія, у прынцыпе, і адказвалі за развіццё народнай самасвядомасці. А такіх асоб у любым грамадстве – не больш за 10 адсоткаў. Але менавіта яны рухаюць грамадства наперад. Калі адсекчы галаву, як можа выжыць увесь арганізм? Але беларусы выжылі, і ў гэтым бачыца Божы промысел, невынішчальная сіла, якая і ў XXI стагоддзі на нашым баку. Для беларусаў тыя рэпрэсіі былі амаль смяротныя. Але прайшоў час, і з'явіліся новыя пакаленні пісьменнікаў, мастакоў, тых, пра якіх кажуць: пацалаваныя пры нараджэнні Богам. Немагчыма жыццёвую энергію знішчыць, каб усё знікла без следу. Значыць, мы сёння павінны напісаць тое, што не было напісана ў 30-я гады. А выжыве літаратура – выжыве і мова, выжыве і народ.

*Паводле Міхася СКОБЛЫ і Леаніда МАРАКОВА.*

Фота з кнігі «Расстраляная літаратура».

Уладзімір ЛІЎШЫЦ

# Гарацкія сябры Якуба Коласа

(Працяг. Пачатак на с.1)

У час вайны, а потым Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый Я. Колас і М. Гарэцкі не сустракаліся, бо Гарэцкі да кастрычніка 1923 года жыў па-за межамі Беларусі. Але ён пільна сачыў за творчасцю Якуба Коласа і ў сваёй кнізе «Гісторыя беларускай літаратуры», якая выйшла ў 1920 годзе, прысвяціў яму цэлы раздзел, характарызуючы яго як класіка беларускай літаратуры.

У кастрычніку 1923 года М.Гарэцкі разам з сям'ёй вяртаецца ў Беларусь, жыве і працуе ў Мінску. Яго дачка Галіна Максімаўна ўспаміналa, што *«ў лістападзе 1923 года ў першы раз прыйшоў да нас Якуб Колас пазнаёміцца з мамай...».*

Летам 1925 года Я.Коласа і М.Гарэцкага пасылалі ў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум, дзе яны чыталі лекцыі па беларускай мове і літаратуры на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. А калі ў верасні гэтага года выйшла кніга Я.Коласа «Сымон-музыка», ён падарыў яе М. Гарэцкаму з надпісам: *«Дарагому другу Максіму Гарэцкаму ад аўтара. Менск. 12.X.1925 г.».*

Як вядома, з лютага 1926 года М. Гарэцкі працуе ў Горках загадчыкам кафедры беларусазнаўства сельскагаспадарчай акадэміі. У гэты час ён некалькі разоў прыязджаў у Мінск. У верасні 1926 года ён заходзіў да Я. Коласа, аднак не застаў яго, бо той знаходзіўся ў Есентуках на адпачынку.

Яго жонка, Марыя Дзмітрыеўна, у лісце да мужа пісала: *«З тыдзень таму назад заходзіў Максім Гарэцкі і пакінуў табе на памяць «На імперыялістычнай вайне», толькі што выйшаўшую з друку».*

17 красавіка 1927 года Я. Колас піша ліст жонцы М. Гарэцкага – Леаніле Усцінаўне, дзе паведамляе аб прыездзе ў Горкі. У лісце ён шле *«прывітанне дзядзьку Максіму»*. Так пачціва называлі сябры адзін аднаго.

Максім Гарэцкі ў гэты час працягваў вывучаць творчасць Якуба Коласа і ў кастрычніку 1927 года ён друкуе ў газеце «Звязда» артыкул *«Якуб Колас пасля Кастрычніка».*

У лістападзе 1927 года грамадскасць Беларускай акадэміі сельскай і лясной гаспадаркі ( так называлася у той час сённяшняя БДСГА) павіншавала Якуба Коласа з нагоды яго 45-годдзя. У сваім адказе ён піша: *"Я не знаходжу адпаведных слоў, каб выказаць ...маю падзяку за віншаванне".*

3 верасня 1928 года сям'я Гарэцкіх жыве ў Мінску, дзе пісьменнік працуе ў Інстытуце беларускай культуры.

Сустрэчы сяброў сталі больш частымі. Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: *«Бацька і Якуб Колас былі ў шчырых адносінах, хадзілі адзін да аднаго ў госці, чыталі свае творы, даравалі кніжкі...».*

Вядома, што ў лістападзе 1928 года Якуб Колас падараваў Гарэцкаму кнігу «Казкі жыцця» з надпісам *«Міламу Максіму Гарэцкаму ад Якуба Коласа. 15. XI.1928 г.».*

Праз год, калі выйшаў з друку другі том збору твораў Я. Коласа, ён падараваў кнігу Гарэцкаму з надпісам: *«Максіму Гарэцкаму ад Якуба Коласа» 29. XI.1929».*

У ліпені 1930 года М. Гарэцкі быў арыштаваны, як «вораг народа» і сасланы ў Вятку. Працаваў на разных работах, а ў вольны час займаўся літаратурнай працай.

У чарвені 1932 года да яго прыязжала жонка Л.У.Чарняўская. Да яе быў звернуты ліст жонкі Я. Коласа Марыі Дзмітрыеўны ад 24 лістапада 1932 года, у якім, у прыватнасці адзначалася: *«...Шкада, што Максім Іванавіч не надта здаровы... Прывітанне і шчырае дзякуй ад Коласа, ад брата і дзяцей. Хочацца ўбачыць Максіма Іванавіча здаровым і бадзёрым».*


Жонка М.Гарэцкага Л.У.Чарняўская і дачка Галіна

Летам 1936 года М. Гарэцкі паехаў у Мінск каб даведацца пра лёс паслaнага ў выдавецтва рукапісу «Віленскіх камунараў». Зайшоў да Я.Коласа, але ён быў на дачы.

Больш сябры не сустракаліся.

Дачка М. Гарэцкага Галіна Максімаўна ўспаміналa: *«Калі мы пераехалі ў Горкі, бацька часта бываў у Мінску і ў адну з сустрэч Якубам Коласам запрасіў яго да сябе ў госці. У клубе сельскагэспадарчай акадэміі яму была наладжана цёлая сустрэча, а вечарам ён гасцяваў у выкладчыка М. Ганчарыка (потым доктара біялагічных навук, члена-карэспандэнта АН Беларусі)».*

### "Незабыўным быў для мяне прыезд Коласа ў Горкі..."

Юрый Паўлавіч Гаўрук, пісьменнік і перакладчык, з 1925 па 1931 гады працаваў дацэнтам, загадчыкам кафедры беларусазнаўства сельскагаспадарчай акадэміі. Ён пазнаёміўся з Я. Коласам у 1926 годзе ў Мінску на адной з маладнякоўскіх літаратурных сустрэч. У сваіх успамінах "Ён чалавекам быў" Юрый Паўлавіч піcаў, што Колас *"...ставіўся да маладых пісьменнікаў добра-*


Юрый Гаўрук

*зычліва, цікавіўся іх творчасцю і на такія сустрэчы прыходзіў ахвотна. Ён не павучаў, сваю думку выказваў сціпла, асцярожна; тое, што падабалася, хваліў у меру, а калі не падабалася, цярпліва маўчаў".*

Вядома, што ў 1926-1935 гады Ю.Гаўрук быў некалькі разоў у доме Я. Коласа ў Мінску, як ён пісаў *"...карыстаўся ласкавасцю яго гаспадароў...".*

І калі вясной 1930 года Якуб Колас прыехаў у Горкі, то спыніўся ў Ю. Гаўрука. Аб гэтай сустрэчы ён успамінаў: *"Незабыўным быў для мяне прыезд Я. Коласа ў Горкі, у сельскагаспадарчую акадэмію вясной 1930 года. Ён прыехаў неафіцыйна, проста так, па запрашэнню мясцовай секцыі навуковых працаўнікоў. Спыніўся ў мяне. Вечарам у клубе секцыі ў яго гонар наладжвалася сустрэча. Было холадна, яшчэ ляжаў снег, і Колас прыехаў у валенках. Аднак на вечар палічыў нязручным з'яўляцца абутым па-зімоваму, і яму даслалі чаравікі. Прыйшоўшы з лекцыі, я ўбачыў зборы Коласа. На табурэтцы стаялі чорныя кругланосыя чаравікі, уласнаручна ім адпаліраваныя. Адзежа была вычышчана, адпрасавана: ён не хацеў прыходзіць абыяк. Акуратнасць, пунктуальнасць, вернасць дадзенаму слову – тыповыя рысы характару Коласа. Ён не абяцаў таго, чаго не мог зрабіць, не пазніўся, не спяшаўся з вывадамі. Шчодры душой, Колас, як кажуць, трымаў сябе ў руках, не раскідваўся марна, з ранніх дзён падпарадкоўваў свае ўчынкі галоўнай мэце – змагацца за праўду, за прагрэс, за правы працоўных.*

*Свежы, іншы вецер вее,*
*Хоць ён вее ціха.*
*А хто зло, няпраўду сее,*
*Той зжынае ліха.*

*У гэтых словах з паэмы "Сымон-музыка" дакладна сфармуляваны прынцып Коласавых адносін да рэчаіснасці. Яго аптымізм грунтаваўся на глыбокім веданні законаў развіцця грамадства. Чалавек не цярпіць несправядлівасці; тое, што пабудавана на гвалце, хлусні і зверстве не мае пад сабой трывалага фундамента...»* (Працяг будзе)

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ Ў МАГІЛЁВЕ




13 лістапада 2012 г. у Магілёўскім Цэнтры культуры і вольнага часу адбылася прэзентацыя кнігі **«Краіна Беларусь. Вялікае княства Літоўскае»**, на якой прысутнічалі яе аўтары пісьменнік Уладзімір Арлоў і мастак Зміцер Герасімовіч.

На прэзентацыю прыйшло каля сотні чалавек. Некаторыя – ужо з набытым у краме выданнем.

"Краіна Беларусь. Вялікае княства Літоўскае" прысвечана найцікавейшаму перыяду нашай гісторыі, той магутнай еўрапейскай дзяржаве, дзе скансалідаваўся беларускі этнас, беларускі народ, дзе беларускія землі адыгрывалі вызначальную ролю, а беларуская мова была мовай дзяржаўнай. Сваёй гістарычнай радзімай ВКЛ лічаць і летувісы, і ўкраінцы, якія доўгі час жылі з беларусамі ў агульнай краіне, і беларускія татары, і габрэі-літвакі. Кніга не абмяжавана часам існавання Вялікага княства Літоўскага – гісторыя працягваецца, па сутнасці, да нашых дзён. Аўтары расказваюць, як канцэпцыя ВКЛ жыла і пасля 1795 года, як нашыя продкі спрабавалі адрадзіць моцную некалі дзяржаву.


Уладзімір Арлоў

*«Гэта кніга пра тое, што беларусы гістарычна і ментальна – еўрапейскі народ. У нас еўрапейская гісторыя, яркія праявы якой мы бачым у рэнесансу, якога не было ў нашых усходніх суседзяў, у рэфармацыі. У тым, што нашы студэнты вучыліся ў заходніх універсітэтах на працягу стагоддзяў. І толькі пасля прыходу расейскіх акупантаў нашым дзецям забаранілі атрымліваць адукацыю на Захадзе. А тых, хто вучыўся там, пачалі прымусова вяртаць. Нашы гарады мелі магдэбургскае права. Магдэбургскага права ніколі не было на ўсход ад Смаленска. Адданасць еўрапейскім каштоўнасцям нашы продкі даказвалі, падымаючыся на вызваленчыя паўстанні супраць расейскіх каланіяльных улад, каб вырвацца з Расейскай імперыі, якую класікі марксізму-ленінізму справядліва называлі*


Зміцер Герасімовіч



*турмой народаў. У нас еўрапейская гісторыя, і гэта пропуск у нашу еўрапейскую будучыню»,* - сказаў Уладзімір Арлоў.

Кніга сапраўды ўнікальная, гэта не звычайная падборка ўсім вядомых фактаў і ілюстрацый. Тут мноства дакументаў, старых карт, летапісаў і гравюраў – усяго ў выданні налічваецца больш за 2 000 ілюстрацый.

(Заканчэнне на с.4)

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ Ў МАГІЛЁВЕ

(Заканчэнне. Пачатак на с.4)

Каля 200 з іх публікуюцца ў кнізе ўпершыню: аўтары доўга шукалі іх не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, Вене, Літве. У выданні можна знайсці шмат невядомых фактаў і гісторый і нават гістарычныя анекдоты – кур'ёзныя здарэнні. І хоць кошт кнігі складае 350.000 рублёў, ужо за некалькі месяцаў увесь наклад у 5.000 асобнікаў быў раскуплены.


Міхась Булавацкі

Кніга зусім нядаўна была прэзентаваная ў Мінску, а Магілёў стаў першым горадам у «гастрольным туры». Як адзначыў сам Уладзімір Арлоў, нездарма магілёўцы аднымі з першых убачылі выданне – у ім не раз згадваецца назва гэтага горада, а пра яго важную ролю ў гісторыі краіны можна нават і не казаць. Магілёў узгадваецца на старонках кнігі – у падзеях Паўночнай вайны, магілёўскага паўстання, у сказах пра друкарні, ратушу, пра вырабы магілёўскіх рамеснікаў. Дарэчы, і цяпер Магілёў усё яшчэ прыкметна ўплывае на гісторыю нашай краіны, падкрэсліў У.Арлоў. Так, менавіта ў гэтым горадзе праводзяцца зборы грошай для выкупу рэдкіх кніг, і менавіта дзякуючы магілёўцам у Беларусь вярнуўся Статут ВКЛ 1588 года выдання.


Таццяна Барысік

Кнігу «Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае» выдалі ў Славакіі. У аўтараў ёсць планы на працяг: зроблены пераклады кнігі на рускую і польскую мовы, таксама плануецца выпусціць яшчэ адну кнігу. Пра што яна будзе – пакуль таямніца. ■

## Малавядовыя факты і гістарычныя анекдоты

- *На пачатку XVIII стагоддзя на землях Радзівілаў дзейнічала першая мануфактура па вытворчасці більярдных кіяў.*
- *Напалеон спытаў бабулю з-пад Віцебска: «Чыёй перамогі жадаеш, бабуля?», на што бабуля адказала: «Хацелася б, каб вы гналі рускіх так далёка, каб ні вярнуліся ні яны, ні вы».*
- *Нядоўгі час на пачатку XX стагоддзя існавала краіна Сярэдняя Літва. Яна знаходзілася на тэрыторыі Віленшчыны і Гродзеншчыны. У краіны былі свае грошы (польская марка), сімволіка і нават паштовыя маркі.*
- *Дзяржаўнай мовай Вялікага княства была старабеларуская мова і на ёй працавала дзяржканцылярыя. Калі ў 1920 г. Савецкая Расія падпісвала мірную дамову з Незалежнай Літвой, літоўцы выставілі прэтэнзіі на метрыку ВКЛ, якая знаходзілася ў Маскве. Доўнар-Запольскі прапанаваў такі прынцып: усе дакументы на літоўскай мове перадаць літоўцам. Такога дакумента не знайшлося ніводнага.*
- *Літоўскі афіцэр у кастрычніку 1939 пісаў у сваім дзённіку: «Мы думалі, што Вільня – гэта літоўскі горад, казачная прынцэса, якую мы, як прынцы, прыйдзем і выратуем. Нас сустрэў варожы горад, дзе ніхто не разумеў нашу мову, дзе на нас глядзелі як на акупантаў».*

Падрыхтаваў Мікола ЯЦКОЎ.

Паводле mycity.by, chartrr97.org, gorad.by, mogilev.gov.by.

# Нарадзіліся ў лістападзе ...



Споўнілася 105 год Міхасю Рыгоравічу ЛАРЧАНКА – літаратуразнаўцу, крытыку, педагогу.

Нарадзіўся 1 лістапада 1907 года ў вёсцы Хварасцяны Прапойскага (зараз Слаўгарадскага) раёна ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Азарыцкай пачатковай школе. У 17 гадоў паступіў у Княжыцкую школу сялянскай моладзі (Магілёўскі раён), дзе многа чытаў, спрабаваў пісаць вершы, загадваў школьнай бібліятэкай, удзельнічаў у самадзейнасці. Пасля школы паступіў у Магілёўскі педтэхнікум, вучыўся на педфакультэце БДУ.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Потым выкладаў у БДУ, чытаў лекцыі па беларускай літаратуры ў Варшаўскім і Сафійскім універсітэтах.

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1939 г. Доктар філалагічных навук, прафесар. Узнагароджаны ордэнам, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі.

Як паэт дэбютаваў у 1930 г., як крытык у 1932 г. Апублікаваў каля 180 літаратуразнаўчых прац, артыкулаў, рэцэнзій. Займаўся пытаннямі старажытнай беларускай літаратуры і фальклору.

Памёр 31 ліпеня 1981 г.



Споўнілася 100 год з дня нараджэння Паўла Нічыпаравіча КАВАЛЁВА – паэта, празаіка, драматурга, перакладчыка, нарысіста.

Нарадзіўся 5 лістапада 1912 г. у в. Склімін Клімавіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Закончыў Мілаславіцкую сямігодку, у 1930 г. – педкурсы ў Магілёве. Працаваў настаўнікам у Клімавіцкім раёне, у газетах "Камуна" і "Шлях калектывізацыі". У 1936 г. закончыў Камуністычны інстытут журналістыкі. Працаваў у газетах "Звязда","Савецкая Беларусь". У гады вайны знаходзіўся ў Цэнтральным штабе партызанскага руху.

З 1946 г. – адказны сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, потым галоўны рэдактар часопісаў "Вожык", "Полымя". У 1966 г. у складзе дэлегацыі Беларускай ССР прымаў удзел у рабоце XXI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Узнагароджаны ордэнамі, медалямі, ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР і Тувінскай АССР.

Першыя нарысы надрукаваны ў 1929 г. у клімавіцкай газеце "Камуна". Першы верш змясціла рэспубліканская газета "Піянер Беларусі" у 1930 г. У ваенны час найбольш выявіў сябе як нарысіст. Спрабаваў сябе ў драматургіі, пісаў творы для дзяцей. Выступаў у жанры сатыры і гумару. Вядомы як перакладчык.

Памёр 2 верасня 1995 г.



Споўнілася 100 год з дня нараджэння Аляксея Сцяпанавіча РУСЕЦКАГА (Бурдзялёва) – паэта, перакладчыка.

Нарадзіўся 21 лістапада 1912 г. ў в. Студзянец Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Закончыў пачатковую школу, Касцюковіцкую сямігодку і Аршанскі педтэхнікум. Пасля заканчэння Маскоўскага заавэтэрынарнага інстытута (1935) працаваў у Мінусінску, Маскве і Мінску. Удзельнік Вялікай Айчын-най вайны. З 1947 года доўгі час працаваў літаратурным кансультантам СП БССР, а потым у часопісах «Беларусь» і «Полымя».

З першымі вершамі ў друку выступіў у 1935 годзе. Выдаў шмат зборнікаў паэзіі. У 1982 г. выйшлі Выбраныя творы ў 2-х тамах.

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1947 г. Заслужаны работнік культуры БССР.

За кнігу вершаў «Крокі сэрца» прысуджана Літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова ў 1981 годзе. Узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Памёр 17 чэрвеня 2000 г.



Споўнілася 100 год з дня нараджэння Яўгена Мацвеевіча ЗАМЕРФЕЛЬДА – паэта, крытыка, педагога.

Нарадзіўся 25 лістапада 1912 г. у в.Пархімкавічы Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Рана застаўся адзін і быў вымушаны пераехаць да радні на Барысаўшчыну. У 1930 г. скончыў Зембинскую сямігодку і паступіў у Барысаўскі педтэхнікум. Выкладаў у школе, працаваў у рэдакцыі раённай газеты. Вучыўся ў Мінскім педінстытуце. У 1938 г. быў арыштаваны і бязвінна правёў некалькі месяцаў у турме. Потым працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў школах Барысава.

З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны застаўся на акупаванай тэрыторыі. У лютым 1942 г. па заданні падполля ўладкаваўся на працу ў Барысаўскі аддзел ЗАГС на пасаду рэгістратара. З выгнаннем захопнікаў працаваў у раённай газеце «Бальшэвіцкая трыбуна». Выкладаў у розных навучальных установах г.Барысава.

Друкавацца пачаў з 1929 г. Творы з'яўляліся ў часопісах «Маладосць», «Узвышша», «Полымя», «Беларусь». Шмат сіл аддаваў стварэнню метадычных распрацовак і дапаможнікаў для настаўнікаў беларускай літаратуры. Стаяў ля вытокаў стварэння ў Барысаве літаратурнага аб'яднання.

Памёр 29 красавіка 1980 г.



Споўнілася 95 год з дня нараджэння Уладзіміра Лаўрынавіча РАГУЦКАГА – паэта.

Нарадзіўся 27 лістапада 1917 года ў в. Цёплае Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. Вучыўся ў школе ў в. Старое Пашкава Магілёўскага раёна, дзе яго настаўнікам быў беларускі паэт Я. Журба. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педінстытута. Працаваў у абласной газеце "Камунар Магілёўшчыны", адкуль быў прызваны ў армію. Загінуў на фронце.

Першы верш надрукаваў у газеце "Піянер Беларусі" у 1934 г.. У 1940 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР прыняло да друку першы зборнік яго вершаў, рукапіс якога загінуў у час вайны.

- 3 лістапада 1914 года ў в.Мазалава Мсціслаўскага павета нарадзіўся Павел Антонавіч ЛЕВАНОВІЧ – празаік, публіцыст.
- 20 лістапада 1930 года ў в.Вусаўка Касцюковіцкага раёна нарадзіўся Рыгор Канстанцінавіч ІГНАЦЕНКА – празаік, публіцыст.
- 23 лістапада 1918 года ў г.Горкі нарадзіўся Барыс Ісакавіч ІОФЕ – літаратуразнавец.
- 26 лістапада 1919 года ў в.Тратнае Клімавіцкага раёна нарадзіўся Іван Яфімавіч СКАРЫНКІН – празаік.



"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 15.11.2012 г.. 21.00.
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.